Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года



№133 (15837) СЕРАДА, 30 жніўня 2000 года. Цана 25 руб.

*Навіны • Факты • Падзеі*

## ДЛЯ СЕМЕЙ, ПОГИБШИХ НА "КУРСКЕ"

Трагедия в Баренцевом море не оставила равнодушным коллектив арендного предприятия "Бобруйский завод крупнопанельного домостроения". По инициативе директора предприятия, депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Марии Винокуровой заводчане решили на своем собрании оказать посильную помощь семьям и родственникам погибших моряков атомной лодки "Курск".

Для них будут выделены две квартиры в Минске, где завод ведет строительство жилья. Каждый член трудового коллектива в фонд помощи отдает по 1-2 тысячи рублей из своего заработка, а директор Мария Винокурова и главный инженер Иван Гриняк – по месячному окладу.

***Александр УДОДОВ.***

## У СПІСЕ КАНДЫДАТАЎ – ПАПАЎНЕННЕ

Днямі спіс кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Бабруйскай – Ленінскай выбарчай акрузе № 63 папоўніўся яшчэ адным прозвішчам. Пазмагацца за мандат дэпутата ў вышэйшую заканадаўчую ўладу краіны вырашыў і дырэктар АП "Бабруйсктрыкатаж" **Э. М. Нарышкін**, якога вылучыў працоўны калектыў прадпрыемства. Такім чынам, гэта ўжо 8-мы кандыдат у дэпутаты па вызначанай выбарчай акрузе.

Падобныя сходы адбыліся днямі на гідролізным заводзе і мясакамбінаце, дзе кандыдатамі ў дэпутаты вылучаны: па Бабруйскай – Першамайскай выбарчай акрузе № 64 – кіраўнік адміністрацыі Першамайскага раёна **С. І. Цеплякоў**, а па Бабруйскай выбарчай акрузе № 65 – старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **А. К. Бабкоў**.

## ШАНЦ ВЫЙГРАЦЬ БЫЎ. ПАДВЯЛІ АБАРОНА І ВАРАТАР

Нямала ўсемагчымых эмоцый у бабруйскіх прыхільнікаў скуранога мяча пакінуў пазаўчарашні матч, што адбыўся на стадыёне "Спартак" паміж "Белшынай" і мазырскай "Славіяй".

Першыя 45 мінут гульні нашыя футбалісты правялі на выдатна, здолеўшы забіць у вароты гасцей два мячы. А вось у другой палове сустрэчы камнаду як быццам бы падмянілі. Дзякуючы "зладжайнай гульні" абароны і варатара ігракі мазырскага клуба правялі ў вароты "Белшыны" ажно 6 мячоў. Канчатковы выхад сустрэчы 3:6 на карысць гасцей.

Чарговы футбольны матч "Белшына" правядзе 6 верасня на выездзе ў Гомелі.

## УЗАЕМАРАЗЛІК ПРАВЯЛІ, А ПРА ВУЛІЦУ ЗАБЫЛІСЯ

Даволі кур`ёзны факт наконт таго, як у горадзе аднаўляюцца месцы былых раскопак, прывёў на пазаўчарашняй планёрцы ў гарвыканкоме намеснік мэра горада В. П. Прыгада.

Аказваецца, што праезную частку вуліц і тратуараў можна рамантаваць з дапамогай самай звычайнай паперы. Прыкладам таму – аднайленне вуліцы Гогаля непадалёк сярэдняй школы № 6, дзе каля двух гадоў таму сіламі вытворчага ўпраўлення "Гарводаканал" вёўся капітальны рамонт водаправодных сетак на амаль кіламятровай адлегласці. Пасля замены асбестацэментных труб на чыгунныя "ініцыятар" раскопак – "Гарводаканал" павінен быў спаўна разлічыцца з гарадскім аб`яднаннем жыллёва-камунальнай гаспадаркі, каб потым прывесці вуліцу і тратуар у належны стан.

Так было і зроблена. Праўда, – на паперы. Высветлілася, што камунальнікі запазычылі "Гарводаканалу" немалую суму грошай за ваду. А таму абодва бакі прыбеглі да дапамогі ўзаемаразліку. Вось толькі ад гэтага не стала і не становіцца лягчэй жыхарам вуліцы Гогаля і навучэнцам, што пешшу па калена ў брудзе дабіраюцца ў школу.

Падобныя адносіны да аднаўлення месцаў былых раскопак выклікалі негатыўную рэакцыю ў мэра горада. У. Ф. Раманоўскі запатрабаваў ад генеральнага дырэктара аб`яднання "Бабруйскжылкамгас" І. П. Кеда і начальніка "Гарводаканала" А. В. Цітова давесці раней пачатую справу да завяршэння. Вуліца Гогаля ў месцах былых раскопак павінна быць прыведзена ў належны стан да 15 верасня.

***А. НІКАЛАЕЎ.***



*Усё жыццё Івана Цімафеевіча Федзянава звязана з заводам трактарных дэталяў і агрэгатаў. На прадпрыемства прыйшоў ён у 1960 годзе вучнем токара, а пайшоў на пенсію з пасады намесніка начальніка цэха № 2 па падрыхтоўцы вытворчасці ў 1991 годзе. Але і сёння працягвае працаваць інжынерам у гэтым жа цэху.*

*Сюды прыйшоў і ягоны сын Алег. Толькі пачынаў ён вучнем фрэзероўшчыка. Зараз Алег Іванавіч працуе майстрам у цэху, які стаў родным для Федзянавых.*

**На здымку:** Іван Цімафеевіч Федзянаў.

А. ФІСЕНКА.

## КІРАЎНІКАМ ДАВЯДЗЕЦЦА ПАЧАКАЦЬ

На нарадзе ў першага намесніка прэм`ер-міністра краіны А. В. Кабякова, якая прайшла 17 жніўня бягучага года, разгледжана пытанне аб ліквідацыі запазычанасці па выплаце зарплаты.

У прынятай пастанове вырашана абавязаць міністэрствы, аблвыканкомы, Мінскі гарвыканком, аб`яднанні, якія падначалены ўраду, іншыя органы дзяржаўнага кіравання прыняць неадкладныя меры па безумоўнаму выкананню патрабаванняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па ліквідацыі запазычанасці па выплаце зарплаты за ліпень уключна да першага верасня бягучага года. Кіраўнікоў, якія не забяспечылі выкананне даручэння, разгледзець на адпаведнасць займаемай пасадзе і прыняць рашэнне аб іх выслабаненні ад яе ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

Вырашана прасіць Нацыянальны і камерцыйныя банкі аказаць арганізацыям неабходную адрасную крэдытную падтрымку для пагашэння запазычанасці па выплаце зарплаты.

Прапанавана кіраўнікам міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, аб`яднанняў, якія падначалены ўраду, выканкомаў, Нацыянальнага і камерцыйных банкаў для зніжэння інфляцыйнай нагрузкі правесці выплату зарплаты за жнівень бягучага года служачым, акрамя, малазабяспечаных, на 10 дзён пазней вызначаных тэрмінаў яе выдачы.

**Міхаіл КРЫВЕЦ.**

## "ДИНАМО" ВЫХОДИТ НА СТАРТ

С 30 по 31 августа 2000 года в рамках спартакиады правоохранительных органов Республики Беларусь в городе Бобруйске состоится чемпионат БФСО "Динамо" по легкоатлетическому кроссу, в котором принимают участие сборные команды Министерства внутренних дел, государственного таможенного комитета, государственного комитета пограничных войск, главного управления командующего внутренними войсками, объединения "Охрана" при МВД, команды учебных заведений МВД Республики Беларусь.

**Г. ЖИВИЦА, инструктор БФСО "ДИНАМО".**

# СІСТЭМА ПРАФТЭХАДУКАЦЫІ НА НОВЫМ ЭТАПЕ

## З канферэнцыі работнікаў прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў Магілёўскай вобласці

У мінулую пятніцу ў прафесійна-тэхнічным каледжы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прайшла жнівеньская канферэнцыя інжынерна-педагагічных работнікаў 39 прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў Магілёўшчыны. Такое мерапрыемства праводзілася ў нашым горадзе ўпершыню – у знак заслуг калектыву каледжа.

Перад пачаткам канферэнцыі яе ўдзельнікі агледзелі выставу-продаж вырабаў ПТНУ, а таксама выставу тэхнічнай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці іх навучэнцаў, метадычных распрацовак работнікаў. І трэба прызнаць, што было што паглядзець і купіць, пачынаючы ад адзення, абутку, сталярных, металічных, кандытарскіх вырабаў і канчаючы прадуктамі ўраджаю сёлетняга года, вырашчанага рукамі навучэнцаў вучылішчаў сельскагаспадарчага профілю.

На пленарным пасяджэнні з грунтоўным і глыбокім па аналізу дакладам выступіў намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкома Л. С. Сматрыцкі на тэму "Стварэнне адукацыйнай і выхаваўчай прасторы як неабходнай умовы пабудовы адзіных тэхналогій развіцця і сацыялізацыі навучэнцаў". За гэтым, даволі мудрагелістым, пазначэннем стаіць вельмі актуальная для нашага часу праблема.

Дакладчык падкрэсліў, што новы навучальны год пройдзе пад знакам 60-годдзя сістэмы прафесійнай адукацыі ў Беларусі, якое будзе адзначацца ў канцы верасня. Наша сістэма прафадукацыі ў складаных умовах станаўлення суверэннай дзяржавы і сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі здолела захаваць лепшыя традыцыі прафесійнай падрыхтоўкі навучэнцаў, накоплены педагагічны вопыт, прадэманстравала сваю ўстойлівасць. Прафесійная школа дзейнічае і развіваецца, сведчаннем чаго з`яўляецца стварэнне новых тыпаў прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, абнаўленне зместу адукацыі, укараненне сучасных педагагічных тэхналогій, прынцыпаў гуманізацыі і гуманітарызацыі прафесійнай адукацыі.

Фарміруецца даступная, гібкая сістэма адукацыі, якая ўлічвае патрабаванні рынку працы, запытанні асобы і інтарэсы дзяржавы, забяспечвае бясплатнае навучанне прафесіі, атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, вывучэнне профільных прадметаў на павышаным узроўні, што дазваляе выпускнікам прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў не толькі быць канкурэнтаздольнымі, сацыяльна адаптаванымі ў грамадстве, але і дае магчымасць працягнуць падрыхтоўку ў сістэме сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі.

Значным дасягненнем трэба лічыць арганізацыю прафесійнай адукацыі дзяцей-інвалідаў і асоб з абмежаванымі магчымасцямі, што дазваляе вырашыць шэраг сацыяльных праблем для гэтых падлеткаў .

Патэнцыял, які назапашаны ў ходзе развіцця пачатковай прафесійнай адукацыі, дазваляе рэфармаваць прафесійную школу, павысіць эфектыўнасць праведзення ў ёй структурных пераўтварэнняў, якасць вучэбна-метадычнага забеспячэння.

У дакладзе адзначаліся і негатыўныя з`явы ў сістэме прафесійнай адукацыі. Так, некаторыя кіраўнікі навучальных устаноў не праяўляюць належнай патрабавальнасці да якасці працы сваіх работнікаў, у некаторых ПТВ не выпрацавана сістэма выхаваўчай работы. Нізкі ўзровень аснашчэння прафесійнай школы камп`ютэрнай тэхнікай. З другога боку, псіхалагічная непадрыхтаванасць большай часткі педагогаў да выкарыстання камп`ютэрных тэхналогій не дазваляе прафесійнай сістэме рэгіёна перайсці да іх масавага ўкаранення і выкарыстання ў вучэбным працэсе.

Слаба працуюць вучэбна-вытворчыя майстэрні вучылішчаў па вытворчасці тавараў і паслуг, невялікія даходы ад вучэбна-вытворчай працы навучэнцаў. Значная частка работнікаў вучылішчаў не павышае сваю кваліфікацыю. Выклікаюць сур"ёзную заклапочанасць вынікі камплектавання раду вучылішчаў навучэнцамі.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел дырэктар Магілёўскага эканамічнага прафесіянальна-тэхнічнага каледжа А. А. Баханові, намеснік дырэктара Магілёўскага прафесіянальна-тэхнічнага ліцэя № 1 Л. Ц. Федарау, намеснік дырэктара Бабруйскага ПТВ № 95 Л. І. Жук, намеснік дырэктара Бабруйскага ПТВ № 142 Л. Г. Еўдакімава, дырэктар Бабруйскага ПТВ № 226 А. П. Каралення, прарэктар рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі, кандыдат педагагічных навук, дацэнт М. В. Ільін, якія выказалі нямала каштоўных думак адносна паляпшэння зместу і якасці вучэбнага працэсу.

У рабоце канферэнцыі прыняў удзел старшыня Бабруйскага гарвыканкома У. Ф. Раманоўскі.

Удзельнікі педагагічнага форума прынялі рэкамендацыі на новы навучальны год, якія павінны ўзняць вучэбна-выхаваўчы працэс у сістэме прафесійнай адукацыі на якасна новы ўзровень.

Госці Бабруйска азнаёміліся з вучэбна-матэрыяльнай базай каледжа, яго музеямі і выставачнымі заламі, прагледзелі канцэрт мастацкай самадзейнасці навучэнскіх калектываў.

***Яфім ГЕЙКЕР.***

# ДУМА

*Газета акцыянернага таварыства “Бабруйскі гарбарны камбінат”*


## ПРАЦУЮЦЬ ПРЫБЫТКОВА

За сем месяцаў бягучага года акцыянеры атрымалі балансавы прыбытак у памеры 1 мільярд 113,4 мільёна рублёў, што складае 132,4 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года. У супастаўляльных цэнах аб“ём таварнай прадукцыі склаў 126,3 працэнта ў параўнанні з леташнімі лічбамі.

Значна перакрыта і заданне па вытворчасці спажывецкіх тавараў, на 9,8 мільёна рублёў аказана платных паслуг насельніцтву. Добрыя і якасныя паказчыкі. Гатунковасць вырабаў склала 92,3 працэнта першагатунковых адзінак.

І ўсё ж у натуральным выражэнні гарбарнікам трэба пераадолець адставанне. Пакуль за справаздачны перыяд выпушчана толькі 50 мільёнаў квадратных дэцыметраў хромавых скуртавараў, што тлумачыцца няпоўнай загрузкай вытворчых магутнасцяў у так званы мёртвы сезон. Дадам, што ў савецкі час калектыў выробляў каля 250 мільёнаў квадратных дэцыметраў хромавых скуртавараў у год. Недахоп сыравіны, шматлікія эканамічныя цяжкасці, крызіс у эканоміцы рэспублікі хваравіва адбіліся і на правафланговым калектыве, які доўгі час нават у постсацыялістычны перыяд заставаўся на плыву.

## СВАЯ ДАРОГА ГЕОРГІЯ ДАЎЖЭЎСКАГА

У жыцці кожнага з нас усё пачынаецца з малога. З першай баразны – барацьба за ўраджай, з першага кроку – дарога ў самастойнае жыццё, з малых спраў – вялікія. У Георгія Якаўлевіча Даўжэўскага ёсць свая дарога, якая прывяла яго, вясковага хлопца, да свайго берага. Ён, яго бераг жыцця, Бабруйскі гарбарны камбінат. Сюды былы салдат упершыню прыбыў у далёкім 1968-м годзе. За плячыма былі Джэзказганскае прафесіянальнае тэхнічнае вучылішча, што ў Казахстане, дзе юнак атрымаў прафесію слесара па рамонту прамысловага абсталявання, служба ў радах Савецкай Арміі, дзе таксама Георгій служыў па цывільнай спецыяльнасці – дазіметрыстам-рамонтнікам.

І на гарбарны хлопец уладкаваўся слесарам кантрольна-вымяральнай апаратуры і аўтаматыкі. Пасля вучылішча меў чацвёрты разрад і ў нашым выпадку пачынаў па гэтай прафесіі. Амаль чатыры гады працаваў на гарбарным камбінаце, затым перайшоў на работу на іншае прадпрыемства. Хацеў паспрабаваць іншага хлеба на другім месцы, іранізуе мой герой. Вельмі горкім ён аказаўся. На тым прадпрыемстве не было парадку, арганізаванасці, адказнасці людзей за сваю справу. Не тое, што ў калектыве гарбарнікаў.

Таму доўга не вытрымаў, літаральна праз год вярнуўся зноў на камбінат. Тут і рос, атрымаў пяты, а затым і шосты разрад “кіпаўца” (так на мове спецыялістаў называецца слесар кантрольна-вымяральнай апаратуры і аўтаматыкі). Добры, зладжаны калектыў, у якім працуе сёння Георгій Якаўлевіч. На ўчастку кантрольна-вымяральнай апаратуры і аўтаматыкі 10 слесараў. Усе майстры сваёй справы, спецыялісты ў поўным сэнсе гэтага слова. Самі даходзяць да ўсяго, разбіраюцца ў складаных прыборах, нават імпартных, якіх на камбінаце стала значна больш. На “кіпаўцаў” шостага разраду такіх як Аляксандр Амельчук, Мікалай Казіміровіч, Уладзімір Курмаз заўсёды можна спадзявацца, не падвядуць. Разам вырашаюць “галаваломкі”, якіх шмат узнікае ў час работы. Прыборы ж розныя. І па віду работы, і па складанасці. Хапае і такіх, якія новымі ніяк не назавеш, даўно адслужылі сваё.

А абслугоўваюць спецыялісты ўвесь камбінат. Тут і вытворчыя цэхі са сваімі асаблівасцямі, і кандэнсатарныя ўстаноўкі на падстанцыях, і кампрэсарная, і цеплапункт, і ачышчальныя збудаванні. Ды хіба ўсё пералічыш?

– Што галоўнае ў рабоце? – задаю пытанне Даўжэўскаму.

– Зладжанасць, дасканаласць у рабоце, – пачуў у адказ. – А яшчэ, каб усё круцілася, не было прастояў абсталявання.

Сказаў проста і даходліва. Я ж зразумеў і іншае. Размова ідзе аб адказнасці. Адказнасці за работу калектыву, каб зрабіць усё для яго плённай працы. Раней працавалася лягчэй, абсталяванне і прыборы былі больш простыя. Зараз куды больш складана. З“явіліся новыя імпартныя мяздрыльныя комплексы, уводзіцца шмат замежнага абсталявання, дзе процьма прыбораў, рознай аўтаматыкі.

На яе знойдзеш хіба што тэхнічную характарыстыку! Да астатняга сам дайдзі. Ды і маладых вучыць трэба, каб дастойная змена была.

У Беларусі і шчасце сваё знайшоў. Жонка Людміла Кірылаўна працуе на футравай фабрыцы. Хаця працай гэта і назваць нельга. Больш стаяць. Адсюль і заробкі ў яе вельмі мізэрныя, дзесьці 15 тысяч новых рублёў. Больш карысьці прынесла б дома, зазначае Георгій Якаўлевіч. Свой прыватны дом, ды яшчэ ў вёсцы свайго роду дача. Толькі завіхайся на зямлі! Яна і корміць сям`ю, дае добры прыварак. А так за цэнамі не паспявае сям`я, кожны дзень што-небудзь даражэе.

Вельмі абураецца рабочы сённяшнім жыццём. І растучымі захмарнымі цэнамі, і адсутнасцю парадку ў дзяржаве, дзе расце злачыннасць, не цэніцца праца рабочага чалавека, з“явілася беспрацоўе.

У людзі выйшлі дзеці, ёсць і ўнукі. Як ім жыць у такіх умовах? Аб іх заўтрашнім лёсе клапоціцца бацька. І сам не ў сілах штосьці змяніць да лепшага. Не спадзяваецца на выбары, на дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія нічога не зрабілі для людзей, толькі зноў імкнуцца да ўлады, каб забяспечыць сабе прыстойнае жыццё. І хаця па натуры Даўжэўскі аптыміст, сёння ён не бачыць святла ў тунелі, не ведае, што будзе заўтра. І гэта заслужаны чалавек, ветэран працы, які аддаў сваёй любімай рабоце больш 30 гадоў! Хіба гэта парадак, калі сваімі рукамі не можам зарабіць на жыццё, пасля рабочага дня на камбінаце трэба працаваць яшчэ шмат гадзін на сваіх дачах. Толькі свой агарод і выручае, забяспечвае сям“ю бульбай, гароднінай, дадатковымі сродкамі.

Доўга я размаўляў аб надзённым жыцці з рабочым. І не хацелася б на сумнай ноце завяршыць расказ аб чалавеку, які сёлета ўзнагароджаны знакам камбіната “За заслугі”. За сваё майстэрства, самаадданасць, любоў да працы і высокую адказнасць за свае справы. Няхай і на нашай вуліцы будзе свята, а на твары майго героя часцей з`яўляецца ласкавая, цёплая ўсмешка.

**Міхаіл КРЫВЕЦ.**



*На гарбарным камбінаце Людміла Тамашчук працуе з 1974 года. Апынулася тут, здавалася б, выпадкова, а засталася на ўсё жыццё.*

*Сама яна родам з Белгародскай вобласці. Закончыла там хіміка-тэхналагічны тэхнікум, выйшла замуж і пераехала на радзіму мужа. Пасля чарговага наведвання аддзела кадраў шыннага камбіната, куды хацела ўладкавацца па асноўнай спецыяльнасці, запытала ў аўтобусе пра ўбачанае здалёк прадпрыемства.*

*Прынялі вучаніцай прэсаўшчыцы скур аддзелачнага цэха № 1. Там і працуе да гэтага часу. Мае вышэйшы прафесійны разрад. Спачатку было вельмі цяжка. Праца яе не палохала, але доўга не магла звыкнуцца з пахам ад скур. І гэта, аднак, хутка прайшло. Працавала добра, неаднаразова выходзіла пераможцай конкурсаў прафесійнага майстэрства. Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

*У чэрвені гэтага года Людміла Мікалаеўна атрымала ганаровую ўзнагароду роднага прадпрыемства – знак “За заслугі”.*

**На здымку: Людміла Тамашчук.**

**А. ФІСЕНКА.**

## ВІНШУЕМ!

*З 50-годдзем* расцяжчыцу скур прыгатавальнага цэха **Вольгу Мікалаеўну КАЗІМІРОВІЧ** і цесляра рамонтна-будаўнічага цэха **Івана Іванавіча СТЭЛЬМАКА**.

Няхай заўсёды ў вашым жыцці спадарожнічаюць поспех і ўдача, шчасце і здароўе, кветкі і прыгажосць, здзяйсненне мар і жаданняў.

*З 55-годдзем* тынкоўшчыцу аддзела капітальнага будаўніцтва **Аду Анатольеўну ГАРОДКІНУ**.

Зычым моцнага здароўя, асабістага шчасця, харастава, дабрабыту ў сям“і, усяго найлепшага ў жыцці.

*З 60-годдзем цесляра аддзела капітальнага будаўніцтва* **Мікалая Васільевіча ГОРБАЧА**.

Жадаем шчасця і дабра, даўгалецця і моцнага здароўя, поспехаў і здабыткаў, дабрабыту і радасці ў жыцці.

***Калектыў акцыянернага таварыства “Бабруйскі гарбарны камбінат”.***

## ДАПАМАГАЮЦЬ ШЭФЫ

Калектыў гарбарнікаў шэфствуе над калгасамі “Советская Белоруссия”, “XVII партз`езд” і “Лясная” Слаўгарадскага раёна, не дзеліць клопаты хлебаробаў на свае і чужыя. Зараз яны разам з калгаснікамі вядуць уборку саломы з палёў, нарыхтоўку сенажу, узворванне зябліва. У кожным калгасе працуе па аднаму камбінатаўскаму экіпажу на трактарах МТЗ-80.

У калгасе “Советская Белоруссия” на прысядзібных участках вяскоўцаў працуе камбайн “Ніва”, які належыць акцыянернаму таварыству. Як паведаміў мне намеснік дырэктара таварыства В. А. Зубар, падшэфныя гаспадаркі завяршаюць здачу збожжа дзяржаве. Дарэчы, сёлета ўраджай збожжавых у гэтых калгасах вышэй, чым летась.

Гарбарнікі аказваюць сваім падшэфным усебаковую дапамогу. І тэхнікай, і механізатарамі, і рамонтнікамі. У час майго наведвання прадпрыемства ўбачыў прадстаўніка калгаса “XVII партз`езд”, які афармляў дакументы на новы прэс-падборшчык ПРФ-180 вытворчасці завода “Бабруйскаграмаш”. Грошы за яго заплаціў калектыў гарбарнага. Кошт прэс-падборшчыка складае ажно 3721,5 тысячы рублёў.

А зусім нядаўна шэфы перадалі калгасу “Советская Белоруссия” граблі-варашылку вытворчасці бабруйскіх аграмашаўцаў. І сёння зваршчыкі і токар з таварыства працягваюць працаваць у падшэфных гаспадарках, абслугоўваюць і рамантуюць сельскагаспадарчую тэхніку, разам з калгаснікамі вядуць бітву за ўраджай-2000.

***Жыллё***

## КОЖНЫ ДРУГІ ГАРБАРНІК АТРЫМАЎ КВАТЭРУ

У свой час калектыў гарбарнага камбіната выступіў з каштоўнай ініцыятывай па будаўніцтву жылля гаспадарчым спосабам. Ініцыятыву першапраходцаў падтрымаў ЦК КПБ, рэкамендаваў укараніць станоўчае для ажыццяўлення ў іншых працоўных калектывах рэспублікі.

З таго часу прайшоў 21 год. За гэты перыяд гарбарнікі ўвялі ў эксплуатацыю дзевяць шматпавярховых жылых дамоў агульнай плошчай амаль у 38 тысяч квадратных метраў. Вось храналогія здачы пад ключ жылля.

У 1983 годзе справілі наваселле шмат сем“яў у 105-кватэрным доме на вуліцы Кастрычніцкай,105 агульнай плошчай у 6200 квадратных метраў. Праз два гады быў заселены 50-кватэрны жылы дом на вуліцы Кастрычніцкай, 105-а агульнай плошчай у 3020 квадратных метраў. Затым людзі атрымалі кватэры ў 18-кватэрнай жылой устаўцы на вуліцы Карла Лібкнехта, 18 агульнай плошчай у 980 квадратных метраў і ў 72-кватэрным жылым доме на вуліцы Маскоўскай, 80 (4240 квадратных метраў).

У постсацыялістычны перыяд, які характарызуецца сістэмным эканамічным крызісам , гарбарнікі не спынялі будаўніцтва жылля. Наадварот, яны ўвялі ў эксплуатацыю ажно 5 дамоў. Сярод іх 72-кватэрны дом на вуліцы Маскоўскай, 84 агульнай плошчай у 4,2 тысячы квадратных метраў (1992 год), 80-кватэрны дом на вуліцы Батава, 28 агульнай плошчай у 4680 квадратных метраў (1995 год), 64-кватэрны дом на вуліцы Дняпроўскай флатыліі, 42 агульнай плошчай у 4096 квадратных метраў (1997 год). Багатым на ураджай жылля быў 1998 год. Тады былі здадзены пад ключ 70-кватэрны дом на вуліцы Дняпроўскай флатыліі, 44 агульнай плошчай у 4520 квадратных метраў і 105-кватэрны жылы дом на вуліцы Ульянаўскай, 60 агульнай плошчай у 6032 квадратныя метры.

А даўгабудам лічыцца 10-ы па ліку дом, узвядзенне якога пачалося ў мікраёне “Заходні” яшчэ ў 1990 годзе. Але з-за адсутнасці інжынерных сетак будаўніцтва было замарожана на доўгі тэрмін, да канца незавершана і сёння. Які будзе лёс гэтага даўгабуду? Аб гэтым мы паведамім чытачам у наступным нумары газеты ў газеце “Дума”.

***Праблему даследуе журналіст***

## ЧАМУ КАРАЕЦЦА АШЧАДНАСЦЬ?

У час размовы з генеральным дырэктарам акцыянернага таварыства “Бабруйскі гарбарны камбінат” М. І. Кунцам аб падрыхтоўцы прадпрыемства да работы ў асенне-зімовы перыяд высветліў адну акалічнасць. Работнікі другой вытворчасці з-за адсутнасці сыравіны пайшлі ў водпуск, калектыў працаваў далёка не на поўную магутнасць, з`эканоміў значную колькасць цеплаэнергіі, а заплаціў за яе ў ліпені амаль столькі ж колькі і ў чэрвені.

Міхаіла Іванавіча літаральна ўзарвала. Як так, задаў ён пытанне, выдаткавалі на 27 працэнтаў менш цеплаэнергіі, укаранілі прагрэсіўную тэхналогію па яе зберажэнню ў аддзелачным цэху № 2 пасля ўвядзення сушкі скуртавараў без прымянення цяпла, а ў ліпені заплацілі амаль столькі ж, як і ў чэрвені.

Адкуль ногі растуць? Доўга біліся над гэтай праблемай я і спецыялісты таварыства. Нарэшце высветлілі: уся справа ў каэфіцыенце курсавой рознасці валюты (аказваецца і такі існуе ў нашай дзяржаве). Цеплаэнергетыкі так заблыталі справу, столькі прыдумалі каэфіцыентаў, нават матэматычную формулу разліку за энергарэсурсы, што ногі паламаеш у гэтых бар“ерах.

Мяркуйце самі. Таварыства выдаткавала за ліпень усяго 1784 гігакалорыі цеплаэнергіі замест 2457 гігакалорый ў чэрвені бягучага года. Здавалася б усё проста: бяры кошт адной гігакалорыі і памнажай на іх выдаткаваную колькасць. Дадам, што адна гігакалорыя рэдуцыраванай пары каштуе 5646 рублёў. Пасля падліку атрымліваецца, што гарбарнікі павінны былі б заплаціць прадпрыемству цеплавых сетак на 3 мільёны 800 тысяч рублёў менш, чым у чэрвені, паколькі эканомія за ліпень у параўнанні з чэрвенем склала 673 гігакалорыі.

Але тут у сілу ўступае нейкая формула энергетыкаў, даволі заблытаная. А ў гэтай блытаніне галоўную ролю адыгрывае праславуты каэфіцыент курсавой розніцы долара ЗША да беларускага рубля. Вельмі мудрагелісты гэты каэфіцыент, які атрымліваецца шляхам дзялення курсавой розніцы на канец месяца плацяжу на розніцу ў час перагляду тарыфаў за цеплаэнергію. На канец ліпеня ён складаў ужо (маецца на ўвазе курс Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь) 778 рублёў. А апошні перагляд тарыфаў на цяпло быў у студзені бягучага года, калі курс Нацыянальнага банка вымяраўся ў 284 рублі. Куфэрчык адкрываецца проста. З кожным месяцам курс Нацыянальнага банка імкліва расце, хутка набліжаецца да курса камерцыйных банкаў. Адсюль з кожным месяцам расце і каэфіцыент курсавой розніцы, які і з`ядае атрыманую эканомію.

Вось так! Атрымліваецца, што і беражлівасць, гаспадарчы падыход да справы караюцца. Усё роўна будзеш плаціць не за чыстыя выдаткаваныя гігакалорыі, а за праславуты, кімсьці прыдуманы каэфіцыент курсавой розніцы, які не ў якія вароты не лезе. Навошта кожны месяц уздымаць тарыфы, калі іх і так можна штучна павысіць з дапамогай нейкага курсавога каэфіцыенту. Чаго толькі не прыдумаюць дзяржаўныя чыноўнікі, каб больш абрабаваць працоўныя калектывы?

Паўстае шэраг пытанняў. Навошта нараджаць мудрагелістыя формулы, каэфіцыенты? Навошта ўскладняць разлікі? Што дае гэта ўскладненне?

Я разумею, у рэспубліцы мала сваіх энерганосьбітаў, іх завозяць з Расіі, іншых краін, яны не вельмі танныя. Але ж ва ўсіх цывілізаваных краінах існуе праграма энергазберажэння, вытворцы прадукцыі стымулююцца за ашчаднасць, плоцяць меншыя грошы ў тым выпадку, калі зберaглі рэсурсы. У нашай жа дзяржаве ўсё наадварот. Ашчаднасць караецца чыноўнікамі, з прадпрыемстваў здзіраюць вялікія грошы, чым павышаюць энергаёмістасць прадукцыі, цану на яе. Ці ж разумная такая дзяржаўная палітыка? Калі скончыцца гэтае бязмежжа? Калі так будзе і далей, лічыць кіраўнік таварыства, то ўжо у кастрычніку прадпрыемства стане, паколькі плата за энергарэсурсы будзе большая, чым цана на сыравіну.

**М. НЕЖЫНСКІ.**

***“Думу” падрыхтаваў Міхаіл КРЫВЕЦ.***

# ВЕСЬ БОБРУЙСК ПОМЕСТИЛСЯ В ЖЕЛЕЗНОМ ШКАФУ

В ОДНОМ ИЗ КАБИНЕТОВ УВД горисполкома за массивными решетками на первом этаже в небольших железных ящиках, вытянувшихся вдоль одной из стен, среди цветов и комнатной зелени хранится... весь наш город и прилегающий район.

Не удивляйтесь, это действительно так. Все постоянные жители, а также те, кто приезжает в Бобруйск на временное место жительства и в милиции становится на учет, все живые и даже мертвые — все хранятся здесь в специальных шкафах. Не сами жители, конечно, а только "досье" на них из паспортных, адресных и других сведений. Причем, если человек меняет фамилию старые данные на него не уничтожаются, а хранятся еще 20 лет. После смерти бобруйчанина или выезда за границу на постоянное место жительства еще в течение шести лет можно отыскать здесь сведения о нем. А называется это хранилище "душ" вполне прозаично – "Адресным бюро при УВД Бобруйского горисполкома".



В нашем городе это единственная адресная служба в отличие от некоторых больших городов, например, таких, как Минск, где киоски с регистраторами адресного бюро есть на вокзалах, в аэропортах.

— Нашими данными пользуются не только организации, среди которых самыми крупными клиентами являются милиция, наркотический и психиатрический диспансеры, но и граждане, — говорят регистраторы бюро Людмила Васильевна Чиграй и Валентина Владимировна Дубовик. – Причем, эти данные не секретны и открыты для всех. В день, бывает, обращается к нам до десятка граждан. А бывают дни, когда такие большие наплывы посетителей, что не успеваем всех обслужить. Во вторую смену очень часто практически по стойке смирно приходится стоять перед телефоном и ящиками с данными, такой идет поток обращений, и в основном от сотрудников милиции на установление личности.

Простые люди стучатся в двери этого бюро по самым разным причинам. Кого-то приводят проблемы, возникшие во время обмена паспорта, кого-то — утрата документов. Многие обращаются в поисках родственников и друзей. Как правило, это приезжие, потерявшие в дороге или дома адреса своих близких. Бывает, что разыскивают бывших сослуживцев, чтобы получить с их помощью необходимые справки или какие-либо сведения. Но информация, которую выдает адресное бюро для граждан не бесплатная. Справочка здесь стоит 22 рубля. Кроме того, все желающие получить какие-либо сведения, в обязательном порядке, во избежание недоразумений, регистрируются в бюро.

Но несмотря на это работникам адресной службы скучать не приходится. Для них почти каждый рабочий день представляет собой перенесенную в Бобруйск из Останкинской телевизионной студии известную передачу "Жди меня". Только в отличие от Игоря Кваша и Маши Шукшиной регистраторы бюро практически всегда помогают тем, кто к ним обращается.

Кроме поиска данных в обязанности четверки работников этого бюро еще входит обновление и уничтожение устаревших сведений, их систематизация. Словом, работы хватает.

Одно время для облегчения условий работы и ускорения поиска данных планировали компьютеризировать адресное бюро, тем более, что есть хорошая программа по адресной службе и можно было бы ее внедрить. Но из-за нехватки средств на приобретение компьютерной техники и соответствующей программы к ней, пришлось на время отказаться от этой идеи.

Правда, не всегда электронная машина работает лучше и быстрее человека. В этом была возможность убедиться во время своеобразных соревнований по скорости и точности поиска адресных данных, которые не так давно проводили в УВД горисполкома между сотрудницами бюро и компьютером. С солидным отрывом выиграли женщины. У них вручную получилось быстрее, чем с помощью "электронных мозгов" у машины. Вот что значит практика и мастерство.

Решил и я проверить насколько точные и полные данные обо мне хранятся в этом "банке бобруйчан". Поиск моей карточки занял меньше минуты, а приведенные в ней сведения поразили своей точностью...

***Валерий ЗИНОВСКИЙ.***

**На снимке:** возле шкафов с данными бобруйчан и жителей района регистраторы адресного бюро Людмила Васильевна Чиграй и Валентина Владимировна Дубовик (слева направо).

*Фото Александра ФИСЕНКО.*

## *Каникулы закончились*

# ВЕСЕЛО БЫЛО В "УЛЫБКЕ"

С приходом лета у многих родителей возникала проблема: куда деть своих детей на 3 месяца каникул? Кого-то выручают бабушки-дедушки в деревнях, кого-то дачи, кого-то родное предприятие, оплатившее часть стоимости путевки в детский лагерь. Но не у многих счастливчиков есть такая возможность. Вот и решили с лёгкой руки начальника управления образования горисполкома Л. С. Богдановой организовать городской детский лагерь. А "фундаментом" для него послужила станция юных натуралистов. И с 1 августа детский экологический лагерь "Улыбка" распахнул двери для ребят нашего города.

В лагере была только одна смена – с 1 по 21 августа, как бы пробная. С 8 до 16 часов дети находились в лагере, а вечером расходились по домам, и , как я поняла, неохотно. Ведь посещаемость стопроцентная. Я спросила у ребят: "А что больше всего вам нравится?" "Все! - был дружный ответ. Действительно, для детей созданы все условия для хорошего отдыха и ... труда. Дети помогают в уборке территории горпарка, озера, ухаживают за животными на станции юннатов, чистят кроличьи клетки, помогают в прополке. И, что удивительно, делают все охотно. Как сказала старшая вожатая Наташа Цымбалюк, заставлять никого не нужно, скорее наоборот. Например, Вадим очень обиделся, когда ему не хватило грабель, и даже заплакал.А после того, как поработают в парке, дети спешат на аттракционы, причем катаются совершенно бесплатно, в виде поощрения, и, вдобавок, это входит в стоимость оплаты за лагерь. Сюда же входит и стоимость питания. Питаются дети 3 раза в день в кафе "Дружба". Все ребята дружно заявляют, что еда отличная , а вот по словам воспитателей, им пришлось немного повоевать вначале за качество и количество. В итоге все наладилось.

Но самое главное – интереснейшие экскурсии. Начальник лагеря Зоя Ивановна Кричко рассказала мне, что дети побывали и в краеведческом музее, где экскурсовод провел викторину, и в собачьем питомнике, где "ученые" собаки показали свое мастерство – выполняли различные команды, упражнения. А сколько еще планов было во время нашего разговора в начале августа! Ребята собирались посетить исторический музей в крепости, различные предприятия нашего города и многое другое. Кстати, и погода тому благоприятствует. Не нужно ехать и в Крым – в августе отлично и в Бобруйске.

В чем же отличие этого лагеря от обычного школьного? Во-первых, сюда дети идут с огромным желанием, в отличие от школьного (по себе помню). Во-вторых, есть возможность общаться с детьми из разных школ города и разных возрастов – от 6 до 16 лет. Ведь в лагере нет отрядов, только 2 звена – старшие и младшие, все находятся вместе. Три воспитателя – С. Б. Сакульская , Н. В. Куцак, Т. Г. Лисневская одинаково заботятся о всех детях. В-третьих, чередование труда и отдыха, различные захватывающие мероприятия – дискотеки, конкурс рисунков и т.д. К тому же дети весь день находятся на свежем воздухе. Многие мамы удивляются, глядя на своих ребятишек – и спокойнее стали, и едят лучше. А спать заставлять и совсем не нужно: набегаются, нагуляются в лагере за день – спят "без задних ног"! Кроме того, не забывайте, есть ведь еще и станция юннатов, директор которой, Александр Васильевич Герасименя, очень чуткий человек, хороший организатор и вообще настоящий хозяин. Где еще типично городской ребенок увидит кролика-барана или кролика-бабочку (порода такая)? Мускусную, белорусскую серую и голландскую волнистую утку? Цесарок и удивительных курочек-бентамок? И не только ведь увидит, но сможет и погладить, и поухаживать за зверюшками. А Сергей Леонтьевич Подлевский, зоолог, расскажет о каждом и научит уходу. Водятся на станции также нутрии и белые ручные крысы, которые мирно уживаются под сарайчиком. А еще – море цветов. Дети с удовольствием сами собирают и едят яблоки, груши.

В общем, эта идея об организации активного отдыха прошла на "ура". Об этом говорят главные хозяева лагеря – дети. Но я уверена, что и их родители тоже довольны, даже и в материальном плане: ведь цена путевки чисто символическая – 1800 рублей. Но самое важное то, что яркие воспоминания о лагере будут согревать детские сердца весь год, до новой смены. И в традиционном школьном сочинении "Как я провел лето", счастливым мальчишкам и девчонкам будет о чем написать.

***Лилия ЛЫСЕНКОВА.***

*Историки и их истории*

# СТРАБОН

## (64/63 г. до н. э. – 23/24 г. н. э.)



Родился Страбон в Амасии, в ста километрах от южного берега Черного моря, куда его родители переехали жить с острова Крит. Прапрадед Страбона по матери входил в свиту царей династии Митридатов. Получив классическое домашнее образование, находясь под влиянием философии Зенона, Страбон в течение почти 90-летней жизни вел размеренную и разумную жизнь стоиков, которые предпочитали наблюдать за политической жизнью со стороны. Этим, видимо, и объясняется его долголетие, исключительное для античности.

Ещё юношей Страбон много путешествовал, посетив все главные города Римской Республики и Египта. Странствуя всю жизнь, Страбон посетил почти все страны Европы и Азии. Особенно детально им была изучена жизнь народов стран Кавказского региона и Балканского полуострова. Усвоив все, известные на то время труды по истории и географии, критически все сравнив с увиденным, Страбон отдал на суд читателей своего времени "Исторические записки" в 43 книгах и "Географию" в 17 книгах. Свои "Исторические записки" Страбон успел издать при своей жизни, а его "Географию" размножили переписчики уже после его смерти.

Если "Исторические записки" были встречены современниками восторженно, то его "Географию" не оценили. Исторические книги Страбона до нас не дошли. Сведения из этих книг, в том числе и о славянских народах, можно найти у Плутарха, Тертуллиана и других историков и религиозных деятелей античности, которые любили в своих трудах цитировать Страбона, как авторитетнейшего историка своего времени. Что касается его "Географии", то современники не смогли её оценить. Может это и спасло этот труд от уничтожения, слава к которому пришла через тысячу с лишним лет.

Первыми стали внимательно изучать "Географию" Страбона через 500 лет ученые-византийцы, которые по достоинству оценили колоссальный труд этого замечательного исследователя античности. Византийцы настолько высоко оценили Страбона, что могли не называть его имени, за которым закрепилось авторитетное прозвище: Географ. Страбон действительно написал книгу необычную – огромную, всеобъемлющую. В своей книге он собрал все, что знали в ту пору об обитаемой земле – ойкумене. Эта книга не только самое крупное из античных произведений такого рода, она – одна из немногих, почти полностью дошедших до нашего времени. Наконец, она сохранила выдержки из трудов более древних авторов, которые подчас стали известны только благодаря Страбону. В "Географии" можно найти не только контуры границ государств и народов Европы и Азии тех лет, но и их способы жизни, их одежду и обычаи, их политические и экономические союзы, способы ремесленного производства тех далёких лет.

В эпоху Возрождения со Страбоном знакомятся европейцы. Труд Страбона заинтересовал не только историков, но, как писал немецкий ученый А. Гумбольт: "Великие творения Страбона в конце средних веков начали оказывать влияние на возникновение и направление научных идей". В 1477 году "География" Страбона оказалась в числе первых печатных книг на латинском языке, а в 1516 году – впервые печатается на греческом языке. На русском языке "География" Страбона была издана "Лениздатом" в 1964 году, являясь в настоящее время библиографической редкостью.

***Леонид МИРОНОВИЧ,***
***книголюб.***

*Нелли КОЛОСОВСКАЯ*

## *ПЕРВОКЛАССНИК*

*Сегодня праздник сентября,*
*Я в первый класс иду, друзья!*
*Большой букет в руках держу,*
*Учителю цветы я подарю.*
*Хочу учиться я на "пять"*
*И космонавтом потом стать.*
*Летать в космической дали*
*И землю видеть с высоты,*
*Охранять свой край родной*
*От всякой нечисти чужой.*
*Сегодня праздник у меня,*
*Я в первый класс иду, друзья!*

# В БОЛЬШИНСТВЕ ЧАСТНЫХ СТРУКТУР НЕ ИМЕЮТ ПОНЯТИЯ О ВОПРОСАХ ОХРАНЫ ТРУДА

***О частном бизнесе сегодня знают все. Стать " новыми белорусами" мечтают многие современные дети. Однако не все так гладко в отечественном предпринимательстве. Взять хотя бы вопросы охраны труда.***

– В частных структурах сегодня мы обнаруживаем множество нарушений,– говорит главный инспектор Бобруйской межрайонной инспекции труда Н. Ф. Микулич. – Например, нанимателями не проводятся инструктажи, договора с работниками часто заключаются в устной форме. Фирмы и организации не регистрируют трудовые книжки, а у некоторых сотрудников их вообще нет. Иногда служащим не предоставляется отпуск и не выплачивается компенсация за него при увольнении.

***– Нина Фёдоровна, как часто вашей организацией проводятся проверки в сфере предприятий малого бизнеса?***

– За семь месяцев 2000 года из 443 общих подобные организации мы посещали 96 раз. Практически везде сталкиваемся с нарушениями. Однако есть такие, как частный предприниматель В. И. Понтаплев, фирмы "Дельфа", "Кристо LTD", показательные на фоне остальных – к ним всегда наименьшие претензии.

***– Кстати, каковы размеры штрафов, взимаемых с провинившихся?***

– Согласно Кодексу об административных правонарушениях для нанимателя предусмотрены штрафные санкции от 1 до 300 минимальных зарплат. На должностное лицо – от 1 до 10. Незаконное привлечение работника к ответственности влечет за собой наложение штрафа на должностное лицо в размере до 100 минимальных зарплат.

***– Как вы думаете, в чем причина указанных вами таких грубых нарушений?***

– Связано это с обыкновенным незнанием: руководители и сотрудники частных структур не имеют соответствующих знаний в вопросах охраны труда, что влечет за собой неправильную организацию трудовой деятельности.

***– А где же можно их получить?***

– Наша инспекция на базе механико-технологического техникума проводит обучение должностных лиц и специалистов частных фирм в области охраны труда и пожарной безопасности.

***– Спасибо за беседу.***

***Записала Марина САКАДЫНЕЦ.***

